СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.29, 19.45, 13.16;
Віцебск — 6.17, 19.37, 13.20;
Магілёў — 6.18, 19.34, 13.16;
Гомель — 6.19, 19.27, 13.08;
Гродна — 6.46, 19.57, 13.11;
Брэст — 6.47, 19.59, 13.12.
МЕСЯЦ:
Першая квадра 4 верасня.
ІМЯНІНЫ:
Адрыяна, Наталлі.


# ЗВЯЗДА

8 ВЕРАСНЯ 1992 г. АЎТОРАК, № 180 (21958)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


## РОЗГАЛАС

### НАШЫ ГРОШЫ: ПОГЛЯД З ЕЎРОПЫ

**Фінансавы кіраўнік па развіццю крэдытавання Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця Фердынанда Буфоні наведаў Інстытут эканомікі Акадэміі навук Беларусі. Буфоні, які з'яўляецца сусветна вядомым экспертам па пытаннях фінансавання і крэдытавання, у час сустрэчы з беларускімі вучонымі цікавіўся перш за ўсё станам фінансавага сектара рэспублікі, напрамкамі нашай эканамічнай палітыкі і падрыхтоўкай адпаведных эканамічных кадраў.**

### ПЕРШЫ БЛІН—Ў ОРШЫ

МІНСК. Фонд падтрымкі прадпрымальніцтва Рэспублікі Беларусь, сродкі якога складаюць амаль 50 мільёнаў рублёў, распачаў работу па стварэнню сваіх рэгіянальных аддзяленняў. Першае з іх будзе створана ў Оршы. На мэты яго гарвыканком ужо выдзеліў 5 мільёнаў рублёў. У хуткім часе сетка рэгіянальных аддзяленняў Фонду падтрымкі прадпрымальніцтва раскінецца па ўсёй Беларусі.

### ЧАКАЕМ ДНІ БАЛГАРЫІ

З 24 па 30 верасня на Беларусі пройдуць Дні Балгарыі, адкрыццё якіх адбудзецца 24-га ў 19 гадзін у тэатры імя Янкі Купалы. За некалькі дзён да гэтага адбудзецца прэс-канферэнцыя ў Беларускім таварыстве дружбы. У ёй прымуць удзел госці з Балгарыі: камерсанты, прадстаўнікі грамадскасці, майстры культуры. Усяго ў Беларусь прыедзе каля 50 чалавек. У рамках Дзён Балгарыі пройдуць шматлікія сустрэчы, выставы, канцэрты і іншыя мерапрыемствы. Яны адбудуцца акрамя Мінска ў Магілёве, Полацку і Заслаўі.

### НА РАДАСЦЬ ЛАСУНАМ

ТАЛАЧЫН. **(Т. Махтадуй).** Больш чым па пуду мёду з кожнай пчалінай рабочай сям'і атрымана сёлета ў калгасе «1 Мая». А ўсяго за сезон пчальнік ў 70 вулляў здаў 600 кілаграмаў мёду. Гэта прынесла ў калгасную касу звыш 100 тысяч рублёў чыстага прыбытку. А галоўнае, што калгаснікі мелі і маюць магчымасць па таннай цане набываць салодкую прадукцыю. Мёд свабодна прадаецца ў мясцовым магазіне і сталоўцы.

Асноўны меданос на пчальніку — грэчка. У наступным годзе яна будзе займаць тут не 25 гектараў, а 50, што дазволіць расшырыць пчальнік, атрымаць большы выхад каштоўнай прадукцыі.

### Дэсантнікі плюс дэмакраты раўняецца...

**ВІЦЕБСК. Начальнік Віцебскага гарнізона і адначасова камандзір славутай гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі генерал-маёр Хацкевіч сустрэўся з членамі кансультацыйнага савета дэмакратычных партый і рухаў горада. Размова ішла вакол сацыяльнай аховы воінаў-дэсантнікаў, будаўніцтва ўласных узброеных сіл Рэспублікі Беларусь, прыняцця воінскай прысягі, іншых пытанняў.**

### ТУК, ТУК! ХТО Ў ЦЕРАМОЧКУ ЖЫВЕ?

ПРУЖАНЫ. У вёсцы Кабылаўка саўгаса «60 год БССР» дзесяць сем'яў (згодна з чаргой) самастойна ўсяліліся ў дамы, якія прызначаліся для чарнобыльцаў. Пры гэтым людзі згаджаюцца з тым, што яны парушылі закон. Аднак свае дзеянні лічаць акцыяй адкрытага пратэсту кіраўніцтву саўгаса і раёна, якія дагэтуль ігнаравалі іх патрэбы, не жадалі выслухаць і канкрэтна растлумачыць сітуацыю з перасяленнем чарнобыльцаў у раён.

Урэшце, у людзей стварылася ўражанне, што на самай справе ніякіх перасяленняў няма. Тым больш, што такія ж дамы для чарнобыльцаў у Ружанах і Шарашове пустуюць ужо амаль цэлы год. Канчатковую кропку ў гэтай справе павінна паставіць пракуратура.

БелаПАН.

# Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб скліканні дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь п а с т а н а ў л я е :

Склікаць дзесятую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання 20 кастрычніка 1992 года ў горадзе Мінску.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

2 верасня 1992 г. г. Мінск.

# Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку дня дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання»**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь п а с т а н а ў л я е:

Адобрыць і перадаць на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праект Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку дня дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання» (прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

2 верасня 1992 г. г. Мінск.

*ПРАЕКТ*

# Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб парадку дня дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Уключыць у парадак дня дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання наступныя пытанні:

1. Аб праекце Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь.
2. Аб ратыфікацыі міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь.
3. Інфармацыя Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб становішчы ў эканоміцы і мерах па яе стабілізацыі.
4. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб размеры мінімальнай заработнай платы».
5. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі».
6. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь».
7. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей» (другое чытанне).
8. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1992 год».
9. Аб рэспубліканскім рэферэндуме.
10. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь».
11. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні Палажэння аб Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь».
12. Аб Палажэнні аб ацэнцы жылля з улікам спажывецкіх якасцей.
13. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб службе ў дзяржаўным апараце» (другое чытанне).
14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь» (другое чытанне).
15. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб імянных прыватызацыйных чэкавых кніжках у Рэспубліцы Беларусь» (другое чытанне).
16. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб процідзеянні манапалістычнай дзейнасці і развіцці канкурэнцыі» (другое чытанне).
17. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб праве ўласнасці на зямлю» (другое чытанне).
18. Аб ваеннай дактрыне Рэспублікі Беларусь.
19. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб усеагульным воінскім абавязку і вайсковай службе» (другое чытанне).
20. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне» (другое чытанне).
21. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ЗВАРОТ

## калегіі Міністэрства абароны да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

Будаўніцтва ўзброеных сіл Беларусі, заснаванае на дзяржаўных актах і законах рэспублікі як адзіна правільны напрамак у дзяржаўнай палітыцы, у апошні час усё больш зведвае націск сіл, якія адносяць сябе да нацыянал-патрыятычных рухаў. Дзейнасць Міністэрства абароны як дзяржаўнага органа з усімі правамі і паўнамоцтвамі, прадастаўленымі народнымі дэпутатамі і ўрадам рэспублікі для ажыццяўлення ваеннага будаўніцтва, падвяргаецца абструкцыі з боку некаторых палітычных партый і грамадскіх арганізацый.

Узброеныя сілы рэспублікі, фарміруемыя па рашэнню Вярхоўнага Савета на аснове войск былой БВА, у заявах БНФ, БЗВ і іх лідэраў называюцца «чужароднымі», няздольнымі па свайму саставу выражаць нацыянальныя інтарэсы Беларусі.

Зыходзячы з таго, што адносіны Беларусі і Расіі гэтымі і іншымі грамадска-палітычнымі арганізацыямі разглядаюцца тэндэнцыйна, на ўзброеныя сілы рэспублікі навешваецца паклёпніцкі ярлык «пятая калона Расіі». Публікацыямі ў друку штучна падаграецца армейскае нацыянальнае пытанне. У яго аснове — надуманыя заявы аб ушчамленнях у правах афіцэраў-беларусаў, што нібыта маюць месца ў войсках. Некаторым афіцэрам, якія вяртаюцца на радзіму ў Беларусь для далейшай службы ва ўзброеных сілах з гарачых кропак, Прыбалтыкі, выказваецца недавер'е толькі за тое, што яны ў сітуацыі распаду Саюза ССР аказаліся заложнікамі лёсу, гарбачоўскай палітыкі і адпаведных загадаў. Гэтыя заявы далёкія ад рэальнасці і ўводзяць грамадскасць у зман.

Санкцыяніраваная Мінгарвыканкомам антыдзяржаўная акцыя 8 верасня г. г. па прывядзенню да прысягі добраахвотнікаў і «свята Беларускага войска» не толькі не адпавядае пастанове Вярхоўнага Савета Беларусі ад 11 студзеня г. г. аб ваеннай прысязе і аб парадку яе прыняцця, але і прыўносіць у працэс дзяржаўнага ваеннага будаўніцтва палітычны аспект.

Гэта акцыя стварае прэцэдэнт падзелу паўнамоцтваў дзяржавы і грамадска-палітычных арганізацый у адносінах да ўзброеных сіл. Армія, якая імкнецца быць дэпалітызаванай і выказвае інтарэсы народа, дзяржавы Беларусь, проціпраўнай прысягай можа аказацца расчлянёнай па палітычнай прыхільнасці. Свята ўзброеных сіл, як і ваенная прысяга ў любой дзяржаве, устанаўліваюцца вярхоўнай уладай і маюць сілу закона. Ініцыіраванне іх у прыватным парадку па палітычных матывах з'яўляецца сур'ёзнай акцыяй па дэстабілізацыі абстаноўкі ў рэспубліцы з далёка ідучымі вынікамі, адэкватнымі абстаноўцы ў «гарачых кропках» былога СССР. Армейская карта разыгрываецца не толькі палітычнымі партыямі, але і пры ўдзеле грамадска-палітычнага руху, называемага БЗВ, які, паводле сваіх заяў, дзейнічае нібыта па-за палітыкай.

Калегія Міністэрства абароны лічыць, што неабходна палітычная, дзяржаўная і прававая ацэнка акцыі 8 верасня г. г. з боку Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Калегія пацвярджае, што ўзброеныя сілы рэспублікі будуць верныя Радзіме, народу і стаяць на варце суверэнітэту, незалежнасці, бяспекі і цэласнасці Рэспублікі Беларусь.

**Калегія Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.**





## «ПРЫМАЮ ПРЫСЯГУ І ЎРАЧЫСТА КЛЯНУСЯ...»

Гэтыя словы воінскай прысягі гучалі ў нядзелю над плошчай Незалежнасці — клятву на вернасць Беларусі і яе народу прымалі курсанты Мінскага вышэйшага ваенна-каманднага і ваенна-інжынернага вучылішчаў — усяго 480 чалавек.

На ўрачыстасцях прысутнічаў Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч, група народных дэпутатаў, а прымаў даклад міністр абароны Павел Казлоўскі.

Над строем лунаў нацыянальны сцяг, увенчаны ўжо не зоркай, а шасціканцовым крыжам, сцягі саміх жа часцей, па-ранейшаму чырвоныя, што выклікала неадназначную рэакцыю ў прысутных на плошчы.

Узніклі дыскусіі, у якіх прынялі ўдзел і ваенныя. Да «гарачага», на шчасце, справа не дайшла. А так усё было прыстойна: словы віншавання, кветкі, музыка, урачысты марш будучага Беларускага войска.

### НА РОЗНЫХ ПОЛЮСАХ

**Сёння па ініцыятыве Беларускага згуртавання вайскоўцаў і іншых дэмакратычных арганізацый праводзіцца свята Беларускага войска, якое прымеркавана да слаўнай даты, — у 1514 годзе пад Оршай беларускае войска, меншае па колькасці, разбіла войска маскоўскае.**

**У гісторыі Беларусі, трэба сказаць, мітынг з гэтай нагоды праводзіцца ўпершыню. Зразумела, падзея нават сёння неардынарная і выклікае розныя думкі і эмоцыі з боку жыхароў рэспублікі.**

**Для адных свята — чорны ліст у календары: сеецца міжнацыянальная варожасць; для іншых — доўгачаканае вяртанне на Беларусь забытай, але слаўнай гістарычнай мінуўшчыны.**

**Аркадзь ЛЕВАНОВІЧ, інжынер завода халадзільнікаў:**

— Мяне здзіўляе і абурае, што мы пачынаем святкаваць такія даты. Чаму мы, браты па крыві, праваслаўнай веры, мове, павінны сёння ўзгадваць тое, што закранае гонар рускіх? Ці мала іншых слаўных дат, калі беларусы разам з рускімі разбівалі войскі прыгнятальнікаў, войскі тых, хто зневажаў нас і называў «быдлам». Што гэта мы ўвесь час мэтанакіравана атручваем свядомасць і сумленне беларуса, нацкоўваем на рускіх. Няўжо крыві хочацца?

**Уладзіслаў КАСПЯРОВІЧ, урач:**

— Нельга забываць сваю гісторыю. Ёсць факт, што пад Оршай Беларускае войска разбіла маскоўцаў, якія далёка не з добрымі думкамі прыйшлі на нашу зямлю. Што яшчэ трэба? Досыць Беларусі знаходзіцца на задворках Расіі. Не будзем жа мы ўвесь час выхоўваць наш народ у прарасійскім духу. Навошта? Патрыятызм беларусаў трэба выхоўваць на такіх слаўных датах, да якой і адносіцца 1514 год.

**Аляксандр РУСАКОЎСКІ, інвалід ВАВ:**

— Ніколі беларусы не лічылі рускіх сваімі ворагамі, як гэтага хочацца Беларускаму згуртаванню вайскоўцаў і БНФ. Наш народ дзяліў з рускімі братамі і голад, і рэпрэсіі, і войны. Былі і перамогі над агульнымі ворагамі. Дык навошта паліваць брудам рускіх?

**Сямён РУСАК, настаўнік:**

— Нічога дзіўнага ў тым, што беларусы пачалі звяртаць увагу на сваю гісторыю, няма. І я не разумею, якія размовы пра нацыянальныя канфлікты могуць у сувязі з гэтым весціся. Народ павінен памятаць аб сваім мінулым, якое б яно ні было. Мы павінны захаваць сваю культуру, сваю мову і сваю гісторыю. І ці будзем мы звацца беларусамі, калі з лёгкасцю адрынем хоць бы тую ж перамогу пад Оршай.

**Падрыхтаваў Ігар ШЧУЧЭНКА.**



### «БІТВА ПАД ВОРШАЙ 1514 г.»

*Беларуская народная песьня*

Ой, у нядзельку параненьку
Узышло сонца хмарненька,
Узышло сонейка над борам,
Па-над селецкім таборам.
А ў таборы трубы граюць,
Да ваяцкае нарады зазываюць.
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршы здабываці;
А ці з поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі.
А ў нядзельку параненьку
Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы;
Гучаць разам з самапалаў,
З сяміплядых ад запалаў,
Б'юць паўсоткаю з гарматаў...
Масква стала наракаці,
Месца Воршу пакідаці.
А як з Воршы ўцякалі,
Рэчку невялічку праклiналі:
«Бадай, ты рэчка, сто лет высыхала,
Як наша слава тутака прапала;
Бадай высыхала да сканчэння свету,
Што нашай славанькі ўжо нету!»
Слава Воршы ўжо нязгорша,
Слаўся, пан Астрожскі!

# ДЗЕНЬ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ БЕЛАРУСІ

Гісторыя Беларусі, пісаная псеўдагісторыкамі і русіфікатарамі, настолькі сфальсіфікаваная, што ўся гэтая рацьі ад навукі можа нават і ганарыцца плёнам сваёй дзейнасці. Калі лічыць, што яны дасягнулі сваёй мэты: народ і блізка не ўяўляе, спадчыннікам якой гісторыі ён з'яўляецца.

А гісторыя суседніх дзяржаў, асабліва тых, якія заўсёды вельмі хацелі быць вялікімі, што нават на ўсякі выпадак адлілі і цар-гармату, і цар-звон, ад пачатку пісалася як казка або міф. Абодва гэтыя падыходы шкодныя як для свайго народа, так і для суседніх. Чаго вартыя разважанні некаторых сённяшніх вучоных і палітыкаў пра тысячагадовую дзяржаву Русь, якая аб'яднала тры славянскія народы на векі вечныя? Вядома, што ў гэтай сям'і па-ранейшаму будзе старэйшы брат і малодшыя. А колькі міфічных святаў нам было навязана, якія і дагэтуль святкуюцца ў незалежнай Беларусі: Дзень Чырвонай (Савецкай) Арміі, 8 Сакавіка (у гонар таго, што Юдзіта адрэзала галаву Алаферну), а Дні танкіста і дэсантніка, хіміка і нафтавіка... Дзень Чырвонай Арміі! Той самай арміі, якая пазбавіла Беларусь незалежнасці ў 1918 г.

Але адхінём заслону часу і пазнаем сябе такімі, якімі мы былі. Пачнём збіраць сведчанні нашай вялікай гісторыі і адчуем сябе народам, які вечна жыве на гэтай зямлі.

Гісторыя дачыненняў Масковіі і Літвы (Беларусі) пачынаецца дзесьці з XIV ст. І адразу яны становяцца на цвёрдую ваенную аснову, бо ніколі не былі добрасуседскімі. Масква, яшчэ не паспеўшы вызваліцца ад татарскага прыгнёту і плацячы ардзе даніну, пачынае актыўную заходнюю палітыку, скіраваную на захоп Літвы (Беларусі). Аднак яшчэ ў XIV і

(Заканчэнне на 2-й стар.).



**«Бітва пад Воршай». 1514 год. Дрэварыт з «Хронікі Польскай» М. Бельскага, 1597 год.**

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА СВЯТКАВАННЕ 8 ВЕРАСНЯ

**За апошні час у друку («Народная газета», «Советская Белоруссия») з'явілася шмат публікацый, якія крытыкуюць святкаванне 8 верасня Дня беларускай вайсковай славы, якое праводзіцца па ініцыятыве БЗВ і падтрымана ўсімі дэмакратычнымі партыямі і рухамі. З абвінавачваннямі ў адрас аргкамітэта свята выступілі ў прэсе міністр абароны П. Казлоўскі, народны дэпутат палкоўнік Л. Прывалаў, па тэлебачанні (у праграме «НІКа») — прадстаўнік МА, кандыдат гістарычных навук палкоўнік М. Бяльдзюгін.**

У сувязі з гэтым хацелася б адзначыць наступнае. З самага пачатку, як толькі БЗВ падало заяву аб правядзенні гэтага мерапрыемства ў Мінгарвыканком, пачалося процідзеянне ажыццяўленню святкавання. Вядомая ўсім ДСПС разам з так званым Каардынацыйным камітэтам грамадскіх і палітычных рухаў падалі заяву на правядзенне 8 верасня на плошчы Незалежнасці ў той жа самы час свайго мерапрыемства. Пры гэтым на пасяджэнні гарвыканкома, пры разглядзе заяў яны не ўтойвалі, што робяць гэта з адзінай мэтай — каб святкаванне гадавіны перамогі пад Оршай не адбылося.

Што ж не задавальняе ў гэтым свяце ўсіх апанентаў?

Па-першае, тое, што яно праводзіцца без дазволу афіцыяльных структур, якія вырашаюць да гэтага часу, што, дзе, каму і калі святкаваць.

Па-другое, што святкуецца перамога пад Оршай у 1514 годзе, калі 30-тысячнае беларускае войска перамагло 80-тысячнае войска маскоўскага цара. Маўляў, гэтая невялічкая сутычка, а палкоўнік Бяльдзюгін нават аднёс яе да Лівонскай вайны (якая, дарэчы, была ў 1558—1583 гадах, пры новым ужо цару — Іаане IV Грозным). Між тым, гэтая бітва, пра якую народ складаў песні, паклала канец маскоўскай агрэсіі супраць ВКЛ на пачатку XVI стагоддзя. Сама ж бойка зрабілася класікай сярэднявяковага вайсковага майстэрства.

Па-трэцяе. Шмат хто перакананы, што гэта святкаванне па-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ДЗЕНЬ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ БЕЛАРУСІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

XV стст. Масковія для Беларусі вялікай небяспекі не ўяўляла. Затое беларускія войскі не раз хадзілі на Маскву. Вялікі князь Альгерд тройчы разбіваў маскоўскае войска — у 1368, 1370, 1373 гадах. Альгерд быў здольным военачальнікам і мудрым дзяржаўным дзеячам. Ён імкнуўся зрабіць Вялікае княства наймагутнейшай дзяржавай Усходняй Еўропы і цэнтрам праваслаўнай царквы, для чаго заснаваў мітраполію ў першай сталіцы ВКЛ — Навагрудку. З гэтага часу і пачалася зацятая барацьба Масковіі з Літвой за рэлігійную, а адначасова і палітычную ўладу ва Усходняй Еўропе. Тройчы хадзіў на Маскву і Вітаўт Вялікі. Апошні раз — напярэдадні Грунвальдскай бітвы ў 1408 г.

У 1499 г. Масква зноў пайшла вайной на Беларусь: былі спустошаны ўсходнія землі, хаця Смаленск абараняўся цэлыя два гады. Каля Мсціслава быў узяты ў маскоўскі палон Вялікі гетман Кастусь Астрожскі. У 1501 годзе Вялікі князь Аляксандр спыніў гэтую агрэсію і пераможна ўвайшоў у Маскву.

У 1509 г. барацьба разгарэлася з новай сілай. Масква захапіла Пскоўскую рэспубліку — пратэктарат Вялікага княства Літоўскага, і агрэсія пашырылася на Усходнюю Беларусь. Улетку 1514 г. маскоўскія войскі аблажылі Смаленск — памежную цытадэль Беларускага гаспадарства, які пасля жорсткіх баёў быў захоплены, чаму ў значнай ступені паспрыяла здрада князя Міхала Глінскага (ён перайшоў на бок Масквы). Ад муроў Смаленска маскоўскія палкі пачалі хутка прасоўвацца ўглыб Беларусі, палячы паселішчы, беручы ў палон людзей, і ў верасні падышлі да Воршы і Друцка. На беразе Дняпра. гатовае да аблогі Воршы, стаяла больш чым 80-тысячнае маскоўскае войска. Вялізная раць была ўзброена пераважна лукамі, сякерамі, невялікімі шчытамі. Наш Вялікі князь Жыгімонт Стары (адначасова ён быў і польскім каралём) змог выставіць супраць агрэсара толькі 30 тысяч воінаў. Але беларускія і польскія саюзныя палкі былі добра, паеўрапейску ўзброеныя: мелі шмат артылерыі, цяжкай і лёгкай конніцы з доўгімі дзідамі і мячамі. Беларускімі палкамі камандаваў князь Юры Радзівіл — староста гарадзенскі, намеснік мазырскі, дзяржаўца скідальскі, лідскі і беліцкі. Агульнае камандаванне ажыццяўляў выдатны беларускі палкаводзец, Вялікі гетман Вялікага княства Літоўскага князь Кастусь Астрожскі, якога да гэтага часу ўдалося вызваліць з маскоўскага палону.



Раніцай 8 верасня на беразе рэчкі Крапіўны, дзе яна ўпадае ў Дняпро, разгарэлася дагэтуль нябачаная бітва, якая доўжылася цэлы дзень і скончылася поўным разгромам маскоўскага войска. На беразе Дняпра і ў самім Дняпры, у Крапіўне маскоўцы пакінулі 30 тысяч забітымі, астатнія пачалі ўцякаць. І ўжо ніякая сіла не здолела іх павярнуць назад. 150 баяраў і 15 тысяч войска на чале з ваяводамі былі ўзяты ў палон. Пагоня працягвалася аж за Дарагабужам. К. Астрожскі і Ю. Радзівіл прывезлі ў Вільню ўсе ўзятыя ў бітве сцягі маскоўскага войска.

Перамога беларускай зброі пад Воршай — пераканаўчае сведчанне вайсковага майстэрства героя гэтай вайны, вялікага ваяводы-палкаводца Кастуся Астрожскага, які цвёрда стаяў на абароне нашай старажытнай Айчыны, яе незалежнасці і моцы. На ягоным рахунку — перамогі больш як у 60 бітвах. Але галоўнай сілай быў народ, рашучы ў адпоры няпрошаным гасцям. Безумоўна, што ў гэтай перамозе мелі значэнне і беларускія вайсковыя традыцыі, узровень вайсковай справы ў гаспадарстве наогул. Невыпадковыя перамогі беларускага войска, якія былі памятныя ў Вялікім княстве,— гэта ў першую чаргу бітва пад Крутагор'ем у 1249 г., калі беларускія палкі пад камандай Вялікага князя Міндоўга разбілі татарскую навалу і прадухілілі захоп Беларусі і, напэўна, усёй Цэнтральнай Еўропы. І зусім свежыя ўражанні — разгром татараў пад Клецкам у 1506 г., і, вядома, вайна з крыжакамі — бітва пад Грунвальдам, а наперадзе, праз 100 гадоў — ізноў паход на Маскву і пераможны ўезд у Крэмль Вялікага гетмана Яна Хадкевіча. Пад камандай Яна Хадкевіча ў 1621 г. адбудзецца сапраўды гістрычная перамога над туркамі.

Рэха перамогі пад Воршай шырока разнеслася па Еўропе. У войсках іншых дзяржаў вывучаюць вайсковае майстэрства вялікага палкаводца князя Канстанціна Астрожскага і ўменне перамагаць меншымі сіламі. Паэты пісалі вершы ў гонар К. Астрожскага, мастакі стваралі гравюры і маляўнічыя карціны. У 1514 г. у Нюрнбергу па свежых слядах быў выпушчаны спецыяльны аркуш вайсковых навінаў, прысвечаны апісанню бітвы пад Воршай. Невядомы мастак XVI ст. намаляваў вялікую карціну (1,5×2,5 м), якая адлюстроўвае ўсю маштабнасць Аршанскай бітвы. Карціна, апрача ўсяго іншага, данесла да нас адлюстраванне і беларускага вайсковага сцяга. (Зараз яна захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве). З ласкі князя Астрожскага ў гонар перамогі ў Вялікім княстве будуюцца храмы. У Вільні былі ўзведзены праваслаўныя бажніцы свяціцеля Міколы і Прасвятой Тройцы (1515—1517 гг.), якія і сёння нагадваюць нам пра нашу слаўную гісторыю, з'яўляюцца сімваламі нашай моцы і незалежнасці.

Перамога пад Воршай не паставіла канчаткова кропкі ў маскоўска-беларускім канфлікце. Гэтая, як і іншыя войны, для Масквы не паслужылі ўрокам. Фактычна з гэтага часу барацьба за Беларусь вядзецца ўжо няспынна. Найбольшы цяжар у гэтай зацяжнай вайне нясуць гарады Усходняй Беларусі: Смаленск, Полацк, Віцебск, Ворша, Рагачоў, Гомель, Магілёў, Мсціслаў. Войны аднаўляліся ў 1516, 1518, 1519, 1534, 1535, 1536, 1561 гг. Гадоў 400 Масква вяла разбойную грабежніцкую барацьбу супраць Беларусі за яе далучэнне да царства, але непасрэдна вайсковымі дзеяннямі дасягнуць гэтага не змагла. І толькі аб'яднаўшыся з Прусіяй і Аўстрыяй, Расія змагла падзяліць Рэч Паспалітую — федэратыўную польска-беларуска-літоўскую дзяржаву ў 1772—1795 гг., у выніку чаго Беларусь, Літва і частка Польшчы былі гвалтоўна ўключаны ў склад Расійскай імперыі. Доўгія гады войны спусташалі беларускія землі, разбураліся замкі, гарады, людзі забіваліся і забіраліся ў палон, нішчылася народная гаспадарка, культура. Пасля гэтага 200 гадоў расійскай акупацыі (разам з бальшавіцкай) прынеслі беларускаму народу незлічоныя беды і страты. Але ўсё гэта наш народ перажыў і адолеў. Незалежная Беларусь распачала будаўніцтва нацыянальных Узброеных Сіл, якія мусяць стаць сапраўдным гарантам дзяржаўнай незалежнасці. Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь стануць пераемнікамі ваенных традыцый войска Полацкага княства і Вялікага княства Літоўскага — беларускіх дзяржаў старажытнасці і сярэдневякоўя. Натуральна паўстае пытанне пра свята нацыянальнага войска, калі і якім яно павінна быць. У беларускага народа, за плячыма якога вялікая гісторыя, такім днём можа быць ці 15 ліпеня — перамога над крыжакамі ў 1410 г., ці 8 верасня — перамога над Масквой пад Воршай. Улічваючы, што пад Грунвальдам крыжакоў адолелі ўсё ж аб'яднаныя саюзныя войскі, а пад Воршай большасць складалі беларускія рыцары і камандавалі гэтым войскам беларускія палкаводцы, перамога здабыта на беларускай зямлі, днём беларускага войска можа быць якраз 8 верасня.

Няхай гэты дзень стане не толькі святам беларускага войска, а нацыянальным святам Беларусі.

**Мікола КУПАВА.**



НА МАЛЮНКАХ АЎТАРА: вялікі гетман Канстанцін Астрожскі; Вільня на пачатку XVI стагоддзя. У цэнтры бажніца св. Міколы, узведзеная ў гонар перамогі 8 верасня 1514 г.

НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

# «Малая энцыклапедыя» Бракгаўза і Эфрона пра Беларусь

**Сёння мы вельмі заклапочана і шчыра гаворым пра адраджэнне нашай нацыянальнай самасвядомасці. І на тое ёсць падставы. За 70 гадоў «новай эры» пасля залпа «Аўроры» мы фактычна выракліся і роднае мовы, і сваёй гісторыі. Вядома, з дапамогай ідэалагічных пастыраў, якія цвёрда трымалі лейцы ў руках, указваючы «адзіна верны накірунак». Ганьбіліся імёны славутых людзей Беларусі, скажаліся гістарычныя падзеі, сціраліся адвечныя назвы населеных пунктаў, адначасова бязмежна ўзвышалася ўсё, што звязана з «новым ладам жыцця». Увогуле лічылася, што сапраўдная гісторыя Беларусі пачынаецца з Кастрычніка, а ўсё, што было раней, не варта ўвагі, хіба што за выключэннем рэвалюцыйнага руху.**

Вось так мы і сталі нацыяй бязбацькавічаў, бязродзічаў. Якіх толькі эпітэтаў не прыкладзена да Беларусі з нашай маўклівай згоды: «лапцюжная», «цёмная», «галодная», «адсталая аграрная ўскраіна царскай Расіі» і г. д.

Цяпер, калі наша Бацькаўшчына стала незалежнай дзяржавай, мы па зерняўку збіраем усё, што звязана з яе гісторыяй. Але, аказваецца, ёсць цэлая энцыклапедыя пра Беларусь, створаная 100 гадоў назад. Даследчыкі адразу запярэчаць: такой энцыклапедыі не было.

І так, і не так. Справа ў тым, што 100 гадоў назад створаны «Энциклопедический словарь» Ф. Бракгаўза і І. Эфрона, які прызнаны лепшай рускай энцыклапедыяй. Невыпадкова зараз ён факсімільна перавыдадзены і карыстаецца вялікім попытам у чытачоў. Змешчаныя тут артыкулы прыемна ўражваюць сваёй грунтоўнасцю, насычанасцю інфармацыяй. Гэта становіцца зразумелым, калі звяртаеш увагу на склад аўтараў і навуковых рэдактараў: у стварэнні энцыклапедыі прымаў удзел увесь цвет расійскай навукі. Выданне не засмечана ідэалагічнымі догмамі, таму і сёння з'яўляецца актуальным у навукова-пазнавальным плане.

У 84-х тамах «Энциклопедического словаря» Ф. Бракгаўза і І. Эфрона (з улікам дадаткаў) змешчана вялікая колькасць артыкулаў пра Беларусь: пра яе лясы, рэкі, азёры, балоты, пра асобныя рэгіёны і населеныя пункты, пра ваенныя падзеі, якіх так шмат выпала на лёс беларускага народа. У кнізе многа артыкулаў пра развіццё і барацьбу розных рэлігійных плыняў на тэрыторыі Беларусі, пра знакамітых людзей — вучоных, пісьменнікаў, мастакоў, дзяржаўных, ваенных, рэлігійных дзеячаў. І што вельмі радуе, амаль у кожным артыкуле змешчаны бібліяграфічныя крыніцы, з якіх можна чэрпаць і чэрпаць звесткі.

А што, калі прааналізаваць 84 тамы «Энциклопедического словаря», адабраць усё, што мае дачыненне да Беларусі, і выпусціць спецыяльным выданнем? Вось і атрымаецца нешта накшталт той самай «Малой Энцыклапедыі», пра якую гаварылася вышэй. Такая работа зараз і ажыццяўляецца ў Беларускай Энцыклапедыі.

Мяркуецца выдаць адна- ці двухтомнік пад назвай «Беларусь в «Энциклопедическом словаре» Ф. Брокгауза и И. Ефрона». Артыкулы будуць перадрукоўвацца факсімільна, праўда, некаторыя ў скарочаным выглядзе (у іх апускаюцца агульныя звесткі і захоўваецца інфармацыя толькі пра Беларусь). У канцы кожнага матэрыяла будзе ўказана, з якога тома і з якой старонкі ён перадрукаваны. Плануецца таксама змясціць прадметны, імянны, геаграфічны і бібліяграфічны паказальнікі.

Выданне абяцае быць надзвычай цікавым.

Для прыкладу можна прывесці кароткі агляд артыкулаў, звязаных з Беларуссю, што надрукаваны ў 7-м томе.

Відаць, мала хто чуў пра манаха ордэна іезуітаў Андрэя Баболю, які вызначыўся сваёй рэлігійнай дзейнасцю, асабліва ў Бабруйску і Пінску. Яго нават называлі пінскім апосталам. У час казацкіх войнаў у 1657 г. ён быў схоплены казакамі і аддадзены на жудасныя пакуты. Яго цела было захавана ў Пінску, а ў 1827 г. перанесена ў Полацк. У 1853 г. манах Андрэй Баболя быў кананізаваны папам Піем IX, г. зн. аднесены да ліку святых.

Міхаіл Баброўскі — канонік брэсцкага капітула, магістр філасофіі і багаслоўя. Вучыўся ў Віленскім і замежных універсітэтах, наведаў іншыя славянскія землі, а таксама Францыю і Італію, вывез адтуль многа кніг, якія потым трапілі ў віленскую семінарыю. У 1822 г. М. Баброўскі стаў прафесарам Віленскага універсітэта, за свае навуковыя працы быў выбраны членам археалагічнай акадэміі ў Рыме і азіяцкага грамадства ў Парыжы. З яго імем звязаны лёс аднаго з важных кірылаўскіх помнікаў царкоўна-славянскай мовы — Супральскага зборніка. Менавіта ён знайшоў гэты зборнік і паведаміў пра яго Вастокаву, які ў 1825 г. надрукаваў сваё даследаванне.

А якая каларытная асоба Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч! Гэты выхадзец з беларускіх дваран атрымаў адукацыю за мяжой, служыў у войску. А калі пайшоў у адстаўку, выхоўваў дзяцей князя Радзівіла. Пасля гэтага быў настаяцелям у Гомелі і Бабруйску, а таксама канонікам у Вільні. У 1773 г. прызначаны епіскапам беларускім. Павел І надаў яму тытул мітрапаліта ўсіх рымска-каталіцкіх цэркваў у Расіі, а таксама званне камандора вялікага крыжа св. Іаана Іерусалімскага. Быў ён чалавекам высока адукаваным, напісаў гісторыю Крыма, займаўся даследаваннямі аб паходжанні рускай мовы. За свае веды і навуковыя працы абіраўся членам Расійскай акадэміі.

У гэтым жа томе — звесткі і пра іншых нашых землякоў — пра Льва Бараўскага, вядомага на той час прафесара Віленскага ўніверсітэта, пра мужа і жонку Барэцкіх, прадстаўнікоў старога дваранскага роду, якія служылі ў Ноўгарадзе і ўзначальвалі там літоўскую (беларускую) партыю, што ажыццяўляла палітыку на карысць нашай магутнай на той час беларускай дзяржавы. Надрукаваны артыкулы пра Бабруйск і Барысаў, пра палескія балоты, пра Благавешчанскія, Барысаглебскія манастыры на Беларусі, і многія іншыя цікавыя матэрыялы.

Няхай не ўсё супадае з нашымі сённяшнімі ацэнкамі, але ў сукупнасці — артыкулы новага выдання ствараюць шырокую панараму лёсу Беларусі ў складзе Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі. Думаецца, што гэта выданне стане трывалай цаглінай у фундаменце аб'ектыўнай гісторыі нашай незалежнай Беларусі.

**У. САЛАНОВІЧ,**
**член навукова-рэдакцыйнага савета Беларускай Энцыклапедыі.**

ПРЫРОДА І МЫ

# Міна запаволенага дзеяння

**НЕЛЬГА АДКЛАДВАЦЬ БУДАЎНІЦТВА ПРАДПРЫЕМСТВАЎ ПА ПЕРАПРАЦОЎЦЫ І ЗАХАВАННЮ ВЫСОКАТАКСІЧНЫХ АДХОДАЎ ПРАМЫСЛОВАСЦІ**

Яшчэ раз уважліва перагортваю старонкі аб'ёмістай папкі з трывожнай назвай «Аб перапрацоўцы, утылізацыі і захаванні высокатаксічных прамысловых і бытавых адходаў, транспарціроўцы, захоўванню і прымяненню пестыцыдаў». Праблема, як кажуць, з барадой. Прымаліся рашэнні, выдаваліся пастановы, а справа з месца не скраналася.

Але пастанова Саўміна рэспублікі «Аб арганізацыі комплексаў па перапрацоўцы і захаванню таксічных прамысловых адходаў прадпрыемстваў і арганізацый на тэрыторыі рэспублікі» дае надзею на зрушэнне праблемы з мёртвай кропкі. Гэтым дакументам праектаванне, будаўніцтва і забеспячэнне тэхналагічным абсталяваннем прадпрыемстваў па перапрацоўцы таксічных адходаў ускладзены на навукова-вытворчае аб'яднанне «Белдругасрэсурсы».

На Гродзеншчыне штогод утвараецца 313—320 тысяч тон таксічных прамысловых адходаў. З гэтай колькасці ўтылізуецца прыкладна 220 тысяч тон, знішчаецца ці абясшкоджваецца 3,3 тысячы тон, накіроўваецца ў месцы неарганізаванага захоўвання і на палігоны цвёрдых бытавых адходаў 67,8 тысячы тон. Яшчэ 16,6 тысячы тон знаходзяць прытулак у сховішчах арганізаванага складзіравання, якія даўно не адпавядаюць устаноўленым нормам. Затраты на гэта, дарэчы, па ранейшых цэнах склалі штогод амаль 320 тысяч рублёў.

Частку вадкіх адходаў спальваюць на саміх прадпрыемствах. Такія ўстаноўкі працуюць у вытворчых аб'яднаннях «Азот», «Хімвалакно» (Гродна), «Лакафарба» (Ліда). Па сваёй тэхналогіі яны даволі прымітыўныя і абясшкоджання не забяспечваюць. Пазалетась, напрыклад, на «Азоце» пры спальванні вадкіх адходаў, у паветра было выкінута 2 тысячы тон шкодных рэчываў, мала лепшае становішча спраў і цяпер. А што датычыцца аб'яднання «Хімвалакно», дык ёмістасці па захоўванню высокатаксічных адходаў сёлета падлягаюць закрыццю па санітарных і эксплуатацыйных патрабаваннях.

Падкрэслім і тое, што на прадпрыемствах не наладжана сістэма інвентарызацыі таксічных адходаў. У выніку на звалкі бытавых адходаў Гродна, Ліды, Слоніма, Смаргоні і іншых гарадоў у глебу і адкрытыя вадаёмы трапляюць цяжкія металы, нафташламы, адходы рэгенерацыі эмульсій і змазачна-ахаладжальных вадкасцей, ртуць.

Напрыклад, завод азбестацэментных вырабаў аб'яднання «Ваўкавыскцэментнашыфер» працягвае скідваць у адпрацаваны кар'ер забруджаныя сцёкі з наяўнасцю шасцівалентнага хрому. А ў сховішчы, размешчаным у лясным масіве паблізу ад бярозаўскага шклозавода «Нёман», скапілася 120 тысяч тон адходаў гэтага прадпрыемства. Тэхналогія іх перапрацоўкі (вытворчасць гіпсавых вырабаў) распрацавана адным з кіеўскіх інстытутаў яшчэ ў 1988 годзе, аднак не ўкараняецца.

Або яшчэ. Доўгі час таксічныя адходы лідскага аб'яднання «Лакафарба» вывозіліся на звалку бытавога смецця. Пасля ўмяшання прыродаахоўных і санітарных органаў зрухі да лепшага ёсць, але да канца праблему так і не вырашылі. На звалку па-ранейшаму трапляюць тара з-пад пігментаў і ангідрыдаў, шлам з ачышчальных збудаванняў з сумесямі лакаў і фарбаў, фільтры...

А колькі небяспечных рэчываў скідваюць на гарадскую звалку «Гібулічы» гродзенскія прадпрыемствы «Радыёпрыбор», «Хваля», шкляны і кансервавы заводы! І гэта пры тым, што многія жыхары абласнога цэнтра карыстаюцца вадой з паверхневых водазабораў з Нёмана, у басейнавай зоне якога і размешчана гэта звалка. Бяда побач!

Вывад адназначны: неабходна тэрміновае будаўніцтва прадпрыемства па перапрацоўцы, абясшкоджванню і захаванню таксічных прамысловых адходаў і ядахімікатаў.

Рашэнне аблвыканкома наконт узвядзення гэтых прадпрыемстваў ужо ёсць. Прычым яно грунтавалася на выніках работы камісіі з удзелам высокакваліфікаваных спецыялістаў адпаведных навуковых устаноў рэспублікі. Па ўсіх параметрах найбольш прымальнымі з'яўляюцца ўчастак плошчай 25 гектараў у Слонімскім раёне (на землях Альберцінскага лясніцтва), а таксама ўчастак у Іўеўскім раёне. Цяпер вельмі важна, каб вырашэнню гэтай надзвычай актуальнай праблемы не перашкодзілі «папулісцкія гульні» на пачуццях недастаткова інфармаваных людзей. Тым больш, што аб'яднанне «Белдругасрэсурсы», на якое ўскладзены функцыі заказчыка, робіць вельмі многае для ўкаранення сучаснай тэхналогіі вытворчасці.

Ні адна высокаразвітая краіна не абыходзіцца без спецыялізаваных прадпрыемстваў па перапрацоўцы прамысловых адходаў. Значна больш небяспечна раскідваць іх абы-дзе.

**Пётр ПУТРО,**
**старшыня Гродзенскага абласнога камітэта па экалогіі, дэпутат абласнога Савета народных дэпутатаў.**

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ЖЫЛЛЯ

# Да канца года чакаецца рэзкі ўзрост колькасці ўласнікаў...

**Прыватызацыя жылля. Здаецца, нарэшце нашы люмпенізаваныя грамадзяне атрымалі магчымасць наталіць у масавым парадку салодкае пачуццё ўласніка. Больш двух месяцаў дзейнічае адпаведны закон, газеты стракацяць каментарыямі спецыялістаў і тлумачэннямі юрыстаў. Ура? Але адкуль раптам узялося столькі перашкод на шляху тых прагных, хто, назбіраўшы поўныя торбы патрэбных дакументаў, панёсся ў родныя выканкомы? Чаму мацнее крамольнае падазрэнне, быццам і гэты закон (як і некаторыя іншыя) не працуе?**

**Субяседнік карэспандэнта «Звязды» — Леанід СІНІЦЫН, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях архітэктуры, будаўніцтва, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і жыллёва-камунальнай гаспадаркі вёскі і горада.**

**— Леанід Георгіевіч, ці задавальняюць асабіста вас тэмпы прыватызацыі жылля, тое, як працуе Закон?**

— Канешне, не. Бо на сённяшні дзень паводзіны выканаўчых органаў у гэтым пытанні інакш як блакіраваннем рэалізацыі закона і не назавеш. Спасылаючыся на тое, што Вярхоўны Савет не прыняў методыку ацэнкі аднаго квадратнага метра жылля (а ён сапраўды не прыняў — пытанне было не гатова), яны сцвярджаюць, што гэты закон наогул трэба прыпыніць. Але ацэнка жылля — апошні этап прыватызацыі. Папярэдне трэба шмат што зрабіць: сабраць заявы людзей, што пажадалі прыватызаваць сваё жыллё, даведкі аб наяўнасці працоўнага стажу, правесці работу па надзяленню грамадзян жыллёвай квотай праз Ашчадны банк і г. д. Гэта велізарны аб'ём спраў! А мясцовыя ўлады вырашылі так: няма методыкі ацэнкі жылля — значыць, пачакаем. Я разумею, што і ім цяжка. Работа гэта новая, незнаёмая, патрабуе пэўных арганізацыйных намаганняў, напрацоўкі вопыту. Дык яны ж наогул яе спынілі! І што атрымліваецца на месцах? Людзі прыходзяць з заявамі, а ім адказваюць: ідзіце ў Вярхоўны Савет, там яшчэ да канца не разабраліся.

**— А чаму дэпутаты не прынялі прапанаваную методыку ацэнкі квадратнага метра жылля, што іх не задаволіла?**

— Напэўна, яшчэ свежыя ва ўсіх успаміны, як вялізныя асабнякі прыватызаваліся практычна задарма. Дзейнічала, калі памятаеце, 67-я пастанова Саўміна, якая давала права мясцовым выканкомам рабіць скідку да 70 працэнтаў. А калі права ёсць — грэх яго не скарыстаць. Напрыклад, пабудаваны катэдж. І да яго метраў на дзесяць не дацягнуты водаправод. Гэта дае права запісаць у акце: жыллё нядобраўпарадкаванае. І зрабіць максімальную скідку.

**— Значыць, мае месца недавер выканаўчай уладзе з боку дэпутацкага корпуса?**

— Што зробіш... І ў нашым выпадку гэта тармозіць выкананне закона. Але, з другога боку, нельга сказаць, што сам закон дасканалы, што ўсё ў ім прадугледжана да дробязей, усё зразумела. Вось 20 кастрычніка збяромся на сесію, усе разам параімся, як гэту справу лепш павесці.

**— Ці будзе, калі не сакрэт, узнімацца пытанне аб павелічэнні размераў жыллёвай квоты? Базавая квота складае 650 рублёў — сёння гэта трохдзённы заработак.**

— Але і цэны на жыллё мы бяром на ўзроўні 1991 года. А калі нехта не меў жылля на 1 студзеня 1992 года, а потым, скажам у 1993 годзе атрымаў, квота індэксуецца. У колькі разоў павысіцца за два гады кошт жылля, у столькі ж вырасце і сума квоты.

**— А калі ў мяне выплачаны кааператыў, мне няма чаго прыватызаваць. Квота, тым не менш, налічана, і мне прапануецца купіць на яе акцый, каштоўных папер ці нечага падобнага. Ці шмат я набуду за 650 плюс 120 за кожны год працоўнага стажу?**

— Асноўныя фонды, відаць, таксама будуць рэалізоўвацца ў цэнах 1991 года, так што сёе-тое вам дастанецца, не хвалюйцеся.

**— Паглядзім. Але вы лічыце нармальным, калі жыллё і асноўныя вытворчыя фонды будуць аддавацца ва ўласнасць па цэнах, якія не маюць нічога агульнага з рыначнай кан'юнктурай? Цяжка ўявіць, колькі тут магчыма злоўжыванняў.**

— Ведаеце, мы зараз апынуліся ў такім становішчы, калі трэба выбіраць не паміж добрым і дрэнным, а паміж дрэнным і яшчэ горшым. Магчымасцей для злоўжыванняў будзе больш, калі мы тут цэны вызвалім. Цэны 1991 года яшчэ дазваляюць рэгуляваць працэс прыватызацыі, бо тады захоўваліся прапорцыі паміж цэнамі на асноўныя тавары, зарплатай. Сёння ж — цэнавая вакханалія.

**— Жыллё, згадзіцеся, гэта адзіная ўласнасць, якой можна хутка і масава надзяліць народ, зрабіць яго ўласнікам, падштурхнуць працэс раздзяржаўлення. Калі гэта жыццёва важная справа, на ваш погляд, зрушыць з мёртвай кропкі?**

— Спадзяюся, да канца года працэс пойдзе. Вопыт прыбалтаў, дарэчы, дадае тут упэўненасці. Яны прыватызацыю жылля пачалі крыху раней, і першы час яна ішла вельмі марудна. А праз паўгода — рэзкі ўздым. Думаю, і ў нас будзе недзе гэтак жа.

**Аляксандр БЯРСУДСКІ.**

РЫНАК І АНТЫРЫНАК

# Бізнесмен у асадзе

**Ці лёгка нашым прадпрымальнікам весці сваю справу, калі і грамадства ў значнай сваёй частцы пакуль што адмоўна ўспрымае іх дзейнасць, і дзяржаўныя структуры глядзяць з падазронасцю? З класавым падыходам да прадпрымальніка мы, відаць, развітаемся не хутка, кліч «ату яго, багацея!» уладарна гучыць у душах яшчэ многіх з нас.**

**А як усё гэта выглядае з прававога пункту гледжання? Напрыклад, пры ажыццяўленні палітыкі падаткаабкладання? Пэўны адказ на гэта пытанне дае гутарка карэспандэнта «Звязды» з юрыстам У. КУПЧЫНСКІМ, які за час сваёй практыкі правёў у судах нямала працэсаў з «эканамічным ухілам».**

— Эканамічная злачыннасць сёння — адна з болевых кропак жыцця грамадства. Яна — вынік цяперашняга эканамічнага бязладдзя, недасканаласці заканадаўства, слабасці улады і карумпіраванасці некаторых яе частак. Не дзіўна, што пры наяўнасці надзейнага «даху» ўсемагчымыя ценевікі жывуць даволі бесклапотна, дзяліцца з грамадствам прыбыткамі не жадаюць. Змагацца з імі—справа цяжкая і, прама скажам, далёка не заўсёды ўдзячная.

Зусім іншае становішча ў «нармальнага нашага прадпрымальніка». Ён з усіх бакоў адкрыты і часам проста безабаронны; многія не супраць, вобразна кажучы, яго «пашчыпаць».

Як жа ставіцца дзяржава да абароны правоў нашага бізнесмена? Уладзімір Іванавіч, што гаворыць аб гэтым юрыдычная практыка?

— Сёння, як можна заўважыць, у нас менш сталі шумець наконт таго, што мы, маўляў, на ўсіх парах ідзём да стварэння прававой дзяржавы. Сапраўды, чым пахваліцца, калі ў гэтым плане ў нас стварылі нейкую карыкатуру на заходнюю дэмакратыю? За мяжой бізнесмен — фігура паважаная, на варце яго правоў стаіць закон. А ў нас за ўсю сямідзесяцігадовую гісторыю дзяржава да асобы простага законапаслухмянага чалавека ставілася з пагардай. Што ўжо гаварыць пра такіх падазроных джэнтльменаў, як прадпрымальнікі...

Прывяду некалькі тыповых прыкладаў. Закон аб прадпрыемствах, прыняты ў Беларусі, гаворыць што прадпрыемства мае права займацца любымі відамі дзейнасці ,акрамя забароненых заканадаўствам. Заўважу, што канкрэтны пералік спецыяльных ліцэнзій узнік толькі ў кастрычніку мінулага года.

Наіўныя людзі з МП «Інтарэс», паспадзяваўшыся на закон, у лютым 1991 года выпусцілі дзве метадычныя брашуры, даход ад чаго склаў 79 тысяч рублёў. Дзяржкамвыд рэспублікі накіраваў адпаведныя дакументы ў падатковую інспекцыю па Мінскай вобласці: малое прадпрыемства, ці бачыце, не мела права выпускаць брашуры без яго дазволу. Падатковая ж інспекцыя з гатоўнасцю ўгледзела крамолу і палічыла даход незаконным. Скажам, аднак, што на той перыяд патрабаванні неабходнасці ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць дзяржавай устаноўлена яшчэ не было.

Адным словам, спрацавалі па вядомаму прынцыпу: калі закон супраць нашага разумення сітуацыі, тым горш для закона. Праўда, не ўсюды спавядаюць такія падыходы. Мінскі абласны гаспадарчы суд падатковай інспекцыі ў іску адмовіў, старшыня суда ў парадку нагляду ў змяненні гэтага рашэння адмовіў таксама. Затое ў Вышэйшым гаспадарчым судзе Рэспублікі Беларусь у парушальнікаў закона знайшліся аднадумцы і прынялі пастанову на карысць інспекцыі — спагнаць тыя самыя 79 тысяч у даход дзяржавы.

Заўважце пры гэтым, што і вышэйшай судовай інстанцыі закон не спатрэбіўся. У матывах яе рашэння абавязкова павінны быць спасылкі на канкрэтны артыкул канкрэтнага закона, а замест гэтага запісваецца: маўляў, парушаны ўстаноўлены парадак выдання друкаванай прадукцыі. Атрымліваецца, што высокі суд сам парушыў закон.

— Наколькі вядома, спецыяльнага закона аб друкарскай дзейнасці ў нас не існуе, ёсць толькі разрозненыя нарматыўныя акты. Таму, відаць, і знаходзіцца глеба для адвольных падыходаў у адносінах да прадпрымальнікаў.

— Даруйце, але ж я яшчэ не прывёў даволі пікантных радкоў з пастановы высокай інстанцыі, якую падпісалі намеснік старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда РБ В. Шышкоў, суддзі Н. Пазычук і Л. Чэрнікава: «Такім чынам, малое прадпрыемства незаконна атрымала грашовыя сродкі ў вялікім аб'ёме, зрабіўшы нязначныя затраты». Адчуваеце, адкуль дзьме ветрык?

— Усё зразумела. Кіруемся пакуль партыйным падыходам і класавым чуццём. У нас заўсёды высокапастаўленыя чыноўнікі ўказвалі, хто і колькі павінен зарабляць, што законна, а што — не. Калі так пойдзе і далей, нашым бізнесменам не выжыць.

— Калі ўлады — ці то судовыя, ці то адміністрацыйныя— вынаходзяць для сваіх патрэб зручныя «законы», гэта яшчэ не ўсё. Не менш небяспечная і такая тэндэнцыя: у заканадаўстве адлюстраваны цывілізаваныя паняцці, няма ніякіх двухсэнсавых «момантаў», а слугі дзяржавы ўсё роўна ўціскваюць у яго такія «дэталі», якія апраўдваюць іх прэсінг у адносінах да прадпрымальніка. І ніхто такіх аматараў вольнасцей з законам пакуль што не карае.

Адно з мінскіх МП няблага папрацавала ў першым квартале мінулага года, а таму і перавысіла гранічны ўзровень рэнтабельнасці. Як плаціць падаткі? У той час, заўважу, гэта малое прадпрыемства карысталася падатковай ільготай.

Падатковая ж інспекцыя па Ленінскаму раёну Мінска адным махам вынесла рашэнне: на рэнтабельнасць да гранічнага ўзроўню мы прыменім закон аб ільгоце, а з той сумы, што вышэй яго, заплаціце падаткі ў памеры 100 працэнтаў.

Бедныя бізнесмены! Хоць гэта і не па закону, але ж схілілі яны галовы і аддалі амаль 11 тысяч рублёў. Цягацца з падатковай інспекцыяй, даказваць ёй сваю невінаватасць — сабе даражэй.

— Зноў знаёмыя матывы старарэжымных часоў: калі нельга, але вельмі хочацца, значыць можна. А ў якія дзверы стукацца абрабаваным бізнесменам, калі яшчэ нядаўна дзеянні інспекцыі нават нельга было абскардзіць у судзе? Відаць, таму ніхто не мог (ці не жадаў? астудзіць імпэт такіх дзеячаў фіскальнай службы.

Ну, няхай: абадраць прадпрымальніка — гэта, з іх пункту гледжання, святая справа. Але ж у адміністрацыйным захапленні яны замахваюцца ўжо і на дзяржаўныя інтарэсы.

Канадскай і польскай фірмамі, мінскім кааператывам «Метраном» у беларускай сталіцы было створана сумеснае прадпрыемства. Замежныя бакі мелі пэўныя льготы па падаткаабкладанню — па заканадаўству Рэспублікі Беларусь. А падатковыя інспектары ўзялі ды «самастойна» пазбавілі канадцаў і палякаў гэтых ільгот. Вось апошнія і скардзяцца, што такім чынам была прадэманстравана поўная непавага да існуючага ў нас заканадаўства.

**Гутарыў**
**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

# РОЗГАЛАС

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА СВЯТКАВАННЕ 8 ВЕРАСНЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

сварыць Беларусь з Расіяй. Так, шмат для каго, хто не ведае гісторыі, дзіўна чуць аб такой падзеі. Але чаму б усім грамадзянам Беларусі, незалежна ад нацыянальнасці, не адсвяткаваць гэту гістарычную падзею ў жыцці сваёй дзяржавы? Тым больш, што ў Маскве святкуюць Барадзінскую бітву — і на гэта свята прыехалі французы. Там жа святкуюць 380-годдзе апалчэння Мініна і Пажарскага, якое выгнала літвінаў (нашых продкаў) і палякаў з Крамля (паводле паведамлення інфармацыйнай праграмы «Весткі» Расійскага ТБ ад 4.09.92 і 5.09.92 г.). Здаецца, аб парушэнні міжнацыянальнай згоды больш за ўсё лямантуюць (як звычайна) тыя, хто сапраўды хацеў бы бачыць міжнацыянальныя сутычкі, і, спасылаючыся на іх, завабіць незалежную Беларусь у чарговую камуністычную і славянскую «еднасць».

Па-чацвёртае. Вельмі не падабаецца апанентам гэтага свята тое, што ў яго праграме такі грамадзянскі патрыятычны акт, як прыняцце прысягі беларускаму народу і дзяржаве прысутнымі вайскоўцамі запасу. З гэтай нагоды гучаць абвінавачванні ў антыдзяржаўнай дзейнасці, падмене Вярхоўнага Савета, спробах ствараць паралельныя ўзброеныя сілы, падпарадкаваныя БЗВ і БНФ, расколу афіцэрскага саставу Беларускага войска.

Але ж усе, хто гэтак кажа, добра ведаюць і разумеюць, што грамадская ініцыятыва, якая ператварылася ў грамадскую акцыю, такой жа і застаецца. Таму маючае адбыцца прыняцце прысягі на свяце не мае і не можа мець юрыдычнай ці палітычнай сілы. Гэта толькі акт патрыятызму простых людзей. А як да яго ставіцца, якія палітычныя ці юрыдычныя высновы рабіць у гэтай сітуацыі — гэта справа Вярхоўнага Савета. Ён, калі захоча, можа і ўзаконіць зробленую 8 верасня прысягу, а можа зацвердзіць прапановы МА і Саўміна аб прысязе 31 снежня. І гэта акцыя ніяк не крыўдзіць дзяржаву. Наадварот, дзяржава павінна быць рада, што ёсць у яе грамадзяне, якія ўжо зараз, раней прапанаванай даты, дэманструюць гатоўнасць прысягнуць ёй.

Акрамя таго, тэкст прысягі, які будзе выкарыстаны 8 верасня на час свята, зацверджаны 11 студзеня Вярхоўным Саветам Беларусі. Так што прысутныя будуць клясціся ў адданасці беларускаму народу і дзяржаве, а не БЗВ і БНФ, як аб гэтым сцвярджаюць паважаныя апаненты. Што датычыцца вайскоўцаў тэрміновай службы, то калі яны ў неслужбовы час, няхай неафіцыяльна, але таксама засведчаць сваю адданасць Беларусі, то як гэтым яны падарвуць Беларускае войска ці расколюць афіцэрскі састаў? А будзе загад на прысягу — дык яны з задавальненнем яго выканаюць.

І, нарэшце, аб стварэнні паралельных узброеных сіл у Беларусі. Гэта ўжо зусім недарэчна. БЗВ у свой час змагалася супраць стварэння так званай «народнай гвардыі», рабіла ўсё для стварэння Беларускага войска. Ды і ўсе ўдзельнікі аргкамітэта (а гэта 6 дэмакратычных партый і рухаў) заўсёды выступалі і выступаюць за канстытуцыйны, законны шлях развіцця нашай Радзімы. Вось ужо сапраўды — няма звера, страшнейшага за кошку!

Растлумачыць усе гэтыя прыдумкі апанентаў можна толькі адным — вельмі ўжо не жадае хто-ніхто прыцягваць увагу грамадскасці да праблемы прысягі і наогул — да вайсковых праблем.

**М. БІРУКОЎ,**
**падпалкоўнік, намеснік старшыні БЗВ.**

## ВОСЬ ДЫК «АПЕРАТЫЎНАСЦЬ»

**ЗЭЛЬВА. Па вуліцы Савецкай Мікалай Мазырка капаў склеп для сельгаспрадукцыі. На 40-сантыметровай глыбіні ён выявіў пяць баявых процiпяхотных мін, якія праляжалі пад яблыняй з часоў другой сусветнай вайны 1941—1945 гадоў.**

**Выпадак можа па праву быць занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса па «аператыўнасці», з якой прыбыло на месца аддзяленне сапёраў, — роўна праз суткі пасля паведамлення.**

**Таму цэлыя суткі сям'я М. І. Мазыркі знаходзілася ў непрадказальнай сітуацыі. Што казаць, як на вайне...**

**Пётр ЖЭБРАК.**

# Аб парадку дня дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

22. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб статусе ваеннаслужачых» (другое чытанне).

23. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Камітэце дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь».

24. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пагранічных войсках Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).

25. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).

26. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб альтэрнатыўнай (працоўнай) службе».

27. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб кіруючага і радавога складу органаў унутраных спраў».

28. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю (Асноўны Закон) Рэспублікі Беларусь».

29. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях».

30. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь» (другое чытанне).

31. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь».

32. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб калектыўных дагаворах і пагадненнях» (другое чытанне).

33. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь».

34. Аб праекце Закона Рэспублікі. Беларусь «Аб парадку вырашэння калектыўных працоўных спрэчак (канфліктаў)».

35. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб правах дзіцяці».

36. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб санітарна-эпідэмічным дабрабыце насельніцтва».

37. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб медыцынскім страхаванні грамадзян і фінансаванні аховы здароўя».

38. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове і зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны» (другое чытанне).

39. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі» (другое чытанне).

40. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб патэнтах на вынаходствы».

41. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб патэнтах на прамысловыя ўзоры».

42. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб таварных знаках і знаках абслугоўвання».

43. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь».

44. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь».

45. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтным ладзе і бюджэтным працэсе».

46. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб вылічэнні асобных відаў кампенсацый і спагнанняў».

47. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб валютным рэгуляванні».

48. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўным доўгу Рэспублікі Беларусь».

49. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб балансе і размеркаванні прыбытку Нацыянальнага банка, зводным балансе банкаўскай сістэмы Рэспублікі Беларусь за 1991 год».

50. Аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання.

51. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб эканамічнай праграме Урада Рэспублікі Беларусь на 1993 год і асноўных напрамках развіцця народнай гаспадаркі на перспектыву».

52. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні справаздачы аб выкананні Дзяржаўнага бюджэту Рэспублікі Беларусь за 1991 год».

53. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1993 год».

54. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб аднясенні на ўнутраны доўг Рэспублікі Беларусь часткі ўнутранага доўгу былога СССР, а таксама запазычанасці Урада рэспублікі перад Беларускім акцыянерным камерцыйным аграпрамысловым банкам».

55. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах архітэктуры і горадабудаўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь».

56. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Жыллёвы кодэкс Рэспублікі Беларусь».

57. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб акцыянерных таварыствах, таварыствах з абмежаванай адказнасцю і таварыствах з дадатковай адказнасцю» (другое чытанне).

58. Аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь, якія выклiканы развiццём рыначных адносін.

59. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» (другое чытанне).

60. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб парадку ўезду ў Рэспубліку Беларусь і выезду з Рэспублікі Беларусь».

61. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове навакольнага асяроддзя ў Рэспубліцы Беларусь» (другое чытанне).

62. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выкарыстанні паветранай прасторы».

63. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».

64. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пастаўках (работах і паслугах) для дзяржаўных патрэб».

65. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сувязі».

66. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодных эканамічных зонах у Рэспубліцы Беларусь».

67. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб стварэнні свабоднай эканамічнай зоны ў раёне горада Брэста».

68. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Мытным кодэксе Рэспублікі Беларусь».

69. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мытным тарыфе Рэспублікі Беларусь».

70. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб бязвыплатнай (з улікам жыллёвай квоты, сумы квот) перадачы ва ўласнасць жылля ахвярам палітычных рэпрэсій і іх сем'ям».

71. Аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь, якія рэгулююць пытанні рэабілітацыі і аднаўлення правоў грамадзян, пацярпеўшых ад рэпрэсій у 20—80-я гады.

72. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» і ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах народных дэпутатаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь».

73. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці» (другое чытанне).

74. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь».

75. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове здароўя грамадзян Рэспублікі Беларусь».

76. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў».

77. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб страхаванні».

78. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб міліцыі».

79. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ускладанні на органы дзяржаўнай падатковай інспекцыі Рэспублікі Беларусь функцый дазнання».

80. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовых падатках і зборах у Рэспубліцы Беларусь».

81. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб заключэнні першага намесніка Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь аб неабгрунтаванай адмове Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў у прызнанні паўнамоцтваў народнага дэпутата Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў Марыніча М. А.».

82. Аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з прапановамі органаў і асоб, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы (арыенціровачны пералік праектаў прыкладаецца).

83. Кадравыя пытанні.

*ДАДАТАК ДА ПУНКТА 82.*

**Арыенціровачны пералік праектаў заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь па змяненню і дапаўненню дзеючых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь**

1. Аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь аб абароне спажывецкага рынку Рэспублікі Беларусь.

2. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс аб шлюбе і сям'і Рэспублікі Беларусь».

3. Аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у сувязі з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

4. Аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб прызнанні страціўшымі сілу некаторых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у сувязі з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь «Аб статусе народнага дэпутата мясцовага Савета народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь».

## *Пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

**Аб прызнанні незалежнасці Рэспублікі Босніі і Герцагавіны**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Прызнаць незалежнасць Рэспублікі Босніі і Герцагавіны і ўстанавіць з ёй дыпламатычныя адносіны.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

2 верасня 1992 г.
г. Мінск.

**Аб прызнанні незалежнасці Рэспублікі Македоніі**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Прызнаць незалежнасць Рэспублікі Македоніі і ўстанавіць з ёй дыпламатычныя адносіны.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

2 верасня 1992 г.
г. Мінск.

**Аб прызнанні незалежнасці Рэспублікі Харватыі**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Прызнаць незалежнасць Рэспублікі Харватыі і ўстанавіць з ёй дыпламатычныя адносіны.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

2 верасня 1992 г.
г. Мінск.

## *Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

**Аб назначэнні АГУРЦОВА С. С. Паслом па асобых даручэннях**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Назначыць Агурцова Станіслава Сяргеевіча Паслом па асобых даручэннях.

2. Зацвердзіць Агурцова Станіслава Сяргеевіча кіраўніком дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на перагаворах па дэлімітацыі і дэмаркацыі межаў з Літоўскай Рэспублікай і Латвійскай Рэспублікай.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

2 верасня 1992 г.
г. Мінск.

**Аб дырэктару Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць Бараўцова Валянціна Арцем'евіча дырэктарам Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

2 верасня 1992 г.
г. Мінск.



# Мекка на «новай зямлі»

«Сапраўды святы быў чалавек, нават прырода пацвярджае гэта», — так сказала пра Якуба Коласа адна з яго землячак. І сапраўды, быццам нейкія нябесныя сілы разагналі ў нядзелю над Стаўбцоўшчынай свінцовыя хмары, выглянула сонца, і нічога не перашкодзіла вялікаму святу, арганізаванаму на нёманскіх прасторах у гонар 110-гадовага юбілею нашага слаўнага песняра.

Тых, хто даўно не бываў у гэтых мясцінах, чакала нямала сюрпрызаў. То тут, то там паўставалі перад вачыма дзіўныя драўляныя скульптуры, выкананыя народнымі ўмельцамі. Прычым зроблена ўсё толькі сякерай. І калі ў пачатку шляху вас сустракаюць нейкія зборныя вобразы, то на «Сцежцы новазямельцаў» паяўляюцца канкрэтныя персанажы вядомай паэмы — Міхал, Антось, маці з дзецьмі. А вось і іх хатка. Ажывіць знаёмыя старонкі дапамаглі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці. Гасцей Альбуці «гаспадары» частавалі яблыкамі і медавухай. Тут Колас жыў з 1890 па 1902 год.

Хлебам - соллю сустракалі і на хутары Смольня, дзе на ўзятай у Радзівілаў у арэнду зямлі апошні раз адбудоўвалася сям'я паэта пасля таго, як у 1910 годзе згарэла дашчэнту родная вёска Мікалаеўшчына. Сюды да Коласа прыязджаў у 1912 годзе Янка Купала. І пра гэту сустрэчу, і пра іншыя знамянальныя падзеі ў жыцці і творчасці дзядзькі Якуба падрабязна расказвае абноўленая экспазіцыя дзеючага тут з 1966 года літаратурнага музея.

І, вядома ж, грэх было абмінуць Мікалаеўшчыну.

— Колас—з'ява ў жыцці нашага народа незвычайная, — гаворыць Ніл Гілевіч. — Ён не проста майстар слова, ён— вялікі мысліцель, пісьменнік - педагог, які сімвалізуе мудрасць і вопыт цэлай нацыі. Настаў час па-новаму перачытаць напісанае ім, прычым, не толькі філолагам, але і філосафам, эканамістам, палітыкам. Яго ідэі не падуладныя часу, таму што гэта ідэі самога народа, якому да апошніх сваіх дзён верна і аддана служыў паэт.

Ну, а потым пачаўся вялікі канцэрт фальклорных калектываў. І толькі к канцу шумнага гуляння пайшоў дождж. Свята закончылася.

**Віктар КУКЛОЎ,**
**БЕЛІНФАРМ.**

**На здымках:**
Хлеб-соль гасцям.
На Пеўчым полі.
**Фота Міхаіла МІНКОВІЧА.**



# «Падпіска на рэспубліканскія выданні ідзе добра. Сувязісты зацікаўлены ў павышэнні тыражоў беларускіх газет і часопісаў»

## ТАК ЗАЯВІЎ НА ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ З ЖУРНАЛІСТАМІ МІНІСТР СУВЯЗІ І ІНФАРМАТЫКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ІВАН ГРЫЦУК

**Наладзіць прэс-канферэнцыю для журналістаў, паводле слоў Івана Міхайлавіча, ён напрасіўся сам. Прычын гэтаму некалькі. Па-першае, у галіне накапілася шмат праблем, пра якія міністр хацеў паведаміць насельніцтву рэспублікі. Па-другое, поўным ходам ідзе падпіска на газеты і часопісы, у паспяховым завяршэнні якой зацікаўлены і выдаўцы, і сувязісты. Падалося: тое, пра што гаварылася на прэс-канферэнцыі, будзе цікава і нашым чытачам.**

### 38,7 МЛН. ДОЛАРАЎ — КРЭДЫТ ЕЎРАПЕЙСКАГА БАНКА РАЗВІЦЦЯ І РЭКАНСТРУКЦЫІ

Як адзначыў міністр, стварэнне ўласнай міжнароднай сувязі—адзін з прыярытэтаў развіцця сродкаў сувязі ў рэспубліцы. Да гэтага часу 75 працэнтаў міжнароднай сувязі вядзецца праз Маскву. Цяпер Беларусь незалежная, таму патрэбны і самастойныя абласныя сродкі сувязі. У гэтым плане рэспубліканскае міністэрства праводзіць вялікую работу. Яно першае ў СНД атрымала крэдыт у 38,7 мільёна долараў ад Еўрапейскага банка развіцця і рэканструкцыі. Ён будзе накіраваны на будаўніцтва ў гэтым і наступным годзе сучасных міжнародных электронных станцый. Дарэчы, крэдыт выдадзены на даволі льготных умовах: тэрмінам на дзесяць гадоў і выплатай яго пасля трох гадоў выкарыстання.

Мы не пойдзем, як гэта многія прапануюць нам, на стварэнне сумесных прадпрыемстваў, падкрэсліў міністр. Чаму? Міжнародная сетка сувязі, у параўнанні з міжгародняй, гарадской і сельскай, прыбытковая. Затраты на яе складаюць, паводле нашых падлікаў, 12 працэнтаў, даходы — 63 працэнты. Калі стварыць СП, у якім 52 працэнты нашы, а 48 —іх, з тэрмінам сумеснай дзейнасці дваццаць гадоў, то за гэты час другі бок атрымаў бы прыкладна 520 мільёнаў долараў прыбытку. Вось чаму мы шукалі магчымасць атрымаць крэдыт і самім развіваць міжнародную сетку сувязі. Дарэчы, закупка абсталявання будзе рабіцца па аб'яўленых тэндарах. Хто мае жаданне, ужо цяпер можа падаваць заяўкі для ўдзелу ў таргах.

### ДАЛЕЙШАЕ РАЗВІЦЦЁ ТЭЛЕФОННАЙ СЕТКІ — ПРАБЛЕМА СКЛАДАНАЯ

За пяць апошніх гадоў у рэспубліцы уведзена 750 тысяч нумарнай ёмістасці. Гэта столькі, колькі за дваццаць гадоў — з 1965 па 1985-ы. Сёлета гэтыя тэмпы значна знізіліся. У бягучым і наступным годзе будзе зманціравана 180 тысяч тэлефонных нумароў. А вось на 1994 год абсталяванне не заказана — у прадпрыемства няма грошай. Каб увесці 150 тысяч нумароў (як гэта рабілася ў мінулыя гады), цяпер патрэбна ўжо 4 мільярды рублёў. У той жа час увесь прыбытак прадпрыемстваў сувязі складае 370 мільёнаў.

Асабліва ўскладнілася сітуацыя ў вёсцы. Раней, калі ўвод станцыі на 200 нумароў каштаваў 70—80 тысяч рублёў, калгасы і саўгасы актыўна ўключаліся ў вырашэнне гэтай праблемы. Цяпер такая ж станцыя каштуе 3 мільёны. Цэлы год трэба працаваць некалькім калгасам, каб выдаткаваць такую суму грошай. Праўда, сёлета Мінсельгасхарч выдзеліў 160 мільёнаў рублёў на падтрымку сельскай тэлефоннай сеткі.

Што будзе ў наступным годзе? Цяжка сказаць. Міністэрства сувязі і інфарматыкі звярнулася ва ўрад рэспублікі, каб у бюджэце былі прадугледжаны сродкі на развіццё тэлефоннай сеткі ў краіне.

Ці змяншаецца чарга на ўстаноўку тэлефонаў? Не. На 1 студзеня 1986 года ў чарзе было 470 тысяч. За шэсць гадоў займелі тэлефоны амаль 600 тысяч чалавек. Але на чарзе стаяць яшчэ 750 тысяч жыхароў рэспублікі. Сярод іх 32 тысячы ветэранаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Каб задаволіць толькі іх просьбу, неабходна 450 мільёнаў рублёў.

### ХОД ПАДПІСКІ АБНАДЗЕЙВАЕ

Сувязістаў часта абвінавачваюць у тым, што яны не заўсёды з разуменнем ставяцца да распаўсюджвання газет і часопісаў. Але гэта не так, запэўніў міністр. Мяркуйце самі. Калі значна зменшыцца колькасць падпісных выданняў, дык з 10 тысяч сельскіх і 5 тысяч гарадскіх паштальёнаў прыйдзецца скараціць амаль 7 тысяч. А гэта людзі, іх лёс. Таму сувязісты разам з журналістамі, выдаўцамі вельмі зацікаўлены ў паспяховым правядзенні падпіскі.

Мала людзей падпісваюцца на маскоўскія, былыя цэнтральныя, выданні. Напрыклад, калі на 1 верасня ўся падпіска склала 39 працэнтаў да ўзроўню на першае верасня мінулага года, дык на «Известия»—усяго 3,5 працэнта, «Правду» каля 3 працэнтаў. На рэспубліканскія выданні чытачы падпісваюцца больш ахвотна. Прыемна адзначыць, што міністр праілюстраваў сказанае на прыкладзе «Звязды». Па Гомельскай вобласці колькасць падпісчыкаў газеты склала 85 працэнтаў, па Брэсцкай—93 працэнты да ўзроўню на гэты перыяд у мінулым годзе, а на прадпрыемствах «Мінская пошта» «Звязду» выпісала амаль у чатыры разы больш падпісчыкаў, чым на 1 верасня мінулага года.

Ці будзе датацыя на дастаўку газет і часопісаў падпісчыкам? Спадзяёмся, што будзе. Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч абяцаў падтрымку. На гэтыя мэты патрэбна 238 мільёнаў рублёў.

***

**— Чаму ўстаноўка тэлефона каштуе дваццаць тысяч?**

— Такая сума ўстаноўлена для прадпрыемстваў і арганізацый. Але гэта не значыць, што сувязісты, падкрэсліў Іван Міхайлавіч, хочуць выправіць сваё становішча за кошт іншых. Затраты на мантаж аднаго нумара ў Мінску складаюць 23 тысячы рублёў. Адна 10-тысячная тэлефонная станцыя каштуе 220—230 мільёнаў рублёў. Дарэчы, мы двойчы прасілі, каб грошы, якія паступаюць за гэту работу ад прадпрыемстваў і арганізацый, не залічваліся ў прыбытак, а паступалі на асобны рахунак і ішлі на далейшае развіццё тэлефоннай сеткі.

**— Ці магчыма стварэнне альтэрнатыўных службаў у сістэме сувязі?**

— Магчыма. Мы гатовы даць права на будаўніцтва гарадскіх тэлефонных сетак з іх эксплуатацыяй на працягу 15—20 гадоў і атрыманнем ад гэтага ўсіх даходаў. Мы гатовы ствараць і СП у гэтым напрамку. Але чамусьці жадаючых вельмі мала. Усе, як я казаў, хочуць укласці грошы ў міжнародную сувязь.

**— Часам немагчыма дазваніцца па службовых справах. Шмат нараканняў ад людзей на тое, што не хапае манет...**

— Паверце, перагрузка АТС страшэнная. Многія нашы абаненты, асабліва маладыя прадпрымальнікі, на сваіх кватэрах стварылі сапраўдныя дыспетчарскія вузлы. Засталося ўсяго некалькі краін (члены СНД, Бангладэш, Эфіопія і інш.), дзе захавалася падобная сістэма дзейнасці тэлефоннай сеткі: заплаціў 30 рублёў у месяц — і сядзі на тэлефоне кругласутачна. Ва ўсім свеце існуе плата за тэлефонныя размовы, хоць сімвалічная, але існуе. Зараз мы вядзём работу ў гэтым напрамку.

Пра манеты. Іх недахват усе адчуваюць. Мы ўжо зрабілі для міжгародніх тэлефонаў-аўтаматаў спецыяльныя шматразовыя жэтоны, для гарадскіх — заказаны. Хутка яны з'явяцца на перагаворных пунктах.

**Усё гэта добра, але ж, здаецца, і тут ініцыятыву перахопяць кааператары-спекулянты. Баюся, што медныя жэтоны, а менавіта такія яны выпускаюцца, будуць хутка скуплены, пераплаўлены і прададзены за кардон (вядома, як цэніцца гэты каштоўны метал). Ці не больш разумна было б зрабіць жэтоны па прыкладу метрапалітэна —пластмасавыя.**

**— Наколькі вядома, тэлеканалы «Астанкіна» і Расійскага тэлебачання аплачвае Расія. Назавіце суму.**

— «Астанкіна» аплачвае нам дзесьці 127 мільёнаў рублёў у год. За расійскі канал плата ідзе дадаткова. Праўда, на далейшае яны паставілі пытанне так: плаціць за Расійскае тэлебачанне не будзем, а вы рабіце, як хочаце: можаце паказваць, можаце і не паказваць.

**— Ці ёсць іншыя прапановы па трансляцыі тэле- ці радыёперадач?**

— Канешне. Днямі мы разглядалі просьбу радыёстанцыі «Свабода» трансліраваць яе перадачы на рэспубліку. Такая магчымасць у нас ёсць.

Мы хацелі б прапанаваць нашым тэлегледачам і праграму Санкт-Пецярбургскага тэлебачання. Усё зноў упіраецца ў грошы. З такой прапановай наша міністэрства выходзіла на Мінгарвыканкам, Мінскі абласны Савет. Пытанне пакуль што не вырашаецца.

**— Наколькі рэальныя ў бліжэйшы час выплаты пераводаў з краін СНД?**

— Лічу, што дагавор паміж Беларуссю і Расіяй (у частцы сувязі), які нядаўна падпісаны, разумны. Раней, у былым СССР, усё было вельмі проста. У кожным раёне быў пераводны рахунак. Незалежна ад таго, ёсць там грошы ці няма, з яго бралі і выплачвалі пераводы. Калі па выніках года для Беларусі гэта сальда было адмоўнае, дык Расія яго кампенсавала. Дарэчы, так склалася, што ў Беларусі на 80 мільёнаў рублёў выплаты пераводаў былі большыя, чым іх адпраўка. У бягучым годзе гэта лічба ўжо складае 300 мільёнаў рублёў. Таму мы былі вымушаны абмежаваць сумы пераводаў. Цяпер ёсць дамоўленасць, што Расія кампенсуе Беларусі гэтую суму. Таму ў хуткім часе будзе прынята рашэнне аб прыёме і выплаце пераводаў з Расіі, а затым з Казахстана і Украіны. Інакш нельга. Вядома, колькі людзей з-за гэтага панеслі маральныя і матэрыяльныя страты. Жыццё наша настолькі пераблыталася, што, мабыць, настаў час адмяніць і рашэнне аб забароне адпраўкі пасылак за межы рэспублікі.

**— Шмат праблем у сувязістаў рэспублікі. А ці ёсць у міністэрства праграма дзейнасці на будучыню?**

— Распрацавана нацыянальная праграма развіцця сродкаў сувязі да 2005 года. Ужо ў гэтым годзе яна запатрабуе 6 мільярдаў рублёў укладанняў. Да канца стагоддзя мы хацелі б тэлефанаваць усе гарадскія кватэры і на тры чвэрці сельскія дамы. Думаю, што ў хуткім часе праграму разгледзяць у Вярхоўным Савеце рэспублікі, куды яна накіравана.

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**

## РАДЫЁ ФАКТ

На Кубе часова замарожваецца будаўніцтва атамнай электрастанцыі, якая ствараецца з дапамогай Расіі. Пра гэта паведаміў кубінскі кіраўнік Фідэль Кастра. Ён сказаў, што для працягу будаўніцтва Расія запатрабавала ад Кубы выплаты ёй доўгу ў дзвесце мільёнаў долараў і такую ж суму на набыццё абсталявання. Фідэль Кастра заявіў, што зараз у Кубы няма такіх грошай.

***

**Сейфы з надзвычай высокай сакрэтнасцю будуць патрэбны — так упэўнена прагназіруе выпуск свайго тавару адно з малых прадпрыемстваў Брэста. У сувязі з ростам злачыннасці гэты прагноз, відаць, рэальны. Вось і рыхтуюцца да выпуску самыя розныя схованішчы для каштоўнасцей і дакументаў. Падлогавыя і насценныя, універсальныя і, зразумела, незгаральныя.**

***

**Інфармацыя з Галоўнага ўпраўлення пагранічных войск Рэспублікі Беларусь:**

У апошні час часта можна пачуць выказванні, што з нашай рэспублікі вывозяцца толькі прасы, чайнікі, венікі і іншыя тавары хатняга ўжытку. Ці не працей узяць і дазволіць вывозіць усё гэта без усялякіх доглядаў?

У якасці інфармацыі да роздуму Галоўнае ўпраўленне пагранвойск прыводзіць вынікі работы пагранічнікаў толькі за адзін дзень. У грамадзяніна Польшчы Садоўскага, напрыклад, знойдзена ў тайніку асабістага аўтамабіля 46 кілаграмаў нікелю на суму 30 тысяч рублёў, у поездзе Масква—Варшава — пяць ікон на суму сорак тысяч рублёў, у гэтым жа поездзе ікры і цыгарэт — на 170 тысяч рублёў.

У трох грамадзян Рэспублікі Польшча выяўлена цыгарэт, лікёра-гарэлачных вырабаў на 37 тысяч, оптыкі—на 290 тысяч, прыбораў начнога бачання — на 280 тысяч рублёў. Такім чынам, толькі за суткі канфіскавана тавару на суму больш як мільён рублёў.

